ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КБ(б)Б

ВЫТВОРЧАСЬЦЬ ШЫРСПАЖЫВУ— ПАД СКРАЗНЫ КОНТРОЛЬ ПАРТОРГАНІЗАЦЫЙ

ЖНІВЕНЬ

№ 5

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1 9 3 2

Літправўка *М. Нікалаевіч*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Карэктар *Ю. Жыдовіч*
Здана ў друкарню 28/VIII—32 г.
Падпісана да друку 30/VIII—32 г.

Заказ № 2084. 12.000 экз. ($1\frac{1}{2}$ арк.) Уп. Галоўлітбелу №а 863.

Друкарня імя Сталіна.

# ВЫТВОРЧАСЬЦЬ ШЫРСПАЖЫВУ ПАД СКРАЗНЫ КОНТРОЛЬ ПАРТОРГАНІЗАЦЫЙ

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Пытаньне аб дадатковым вырабе тавараў шырокага спажываньня, у першую чаргу тавараў для колгаснага рынку,—адна з важнейшых задач парторганізацый на сёнешні дзень.

Мы зараз увайшлі ў такі пэрыод нашага будаўніцтва, калі партыя можа на аснове найвялікшых посьпехаў соцыялістычнай індустрыі **адначасова** разьвіваць бальшавіцкімі тэмпамі і вытворчасьць сродкаў вытворчасьці, і вытворчасьць прадметаў шырокага спажываньня. Расьце наша соцыялістычная гаспадарка. Расьце сіла і магутнасьць пролетарыяту Савецкага




саюзу і яго моцнай апоры—колгаснага сялянства, а разам з тым растуць і іх запыты і патрэбнасьці, бесьперапынна са дня на дзень павялічваецца попыт на тавары шырспажыву. Далейшае расшырэньне, іх выраб робіцца задачай першачарговай важнасьці.

XVII партконфэрэнцыя прапанавала к канцу другой пяцігодкі па меншай меры падвоіць або нават патроіць забесьпячэньне насельніцтва асноўнымі спажывецкімі таварамі. Тав. Кагановіч на зьезьдзе профсаюзаў ва ўвесь рост паставіў задачу задавальненьня рабочых патрэб.

Пастановы партыі і ўраду аб збожжа-мяса-загатоўках, сельгаспадатку і колгасным гандлі стварылі ўсе неабходныя палітычныя і арганізацыйныя прадпасылкі для далейшага палепшаньня снабжэньня працоўных, для далейшага павышэньня матэрыяльнага ўзроўню працоўных, у першую чаргу рабочай клясы.

Арганізацыя патоку сельскагаспадарчых продуктаў у гарады шля-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

хам сваячасовага выкананьня пляну збожжа-мяса ды іншых загатовак, шляхам максымальнага разгортваньня колгаснага гандлю (з 15 студзеня 1933 г. дапушчальны гандаль колгасаў і збожжам ураджаю 1932 г.)—важнейшая задача, за ажыцьцяўленьне якой павінна ўзяцца партыйная і савецкая грамадзкасьць нашай краіны.

Але гэта задача цалкам злучаецца з другой, ня менш важнай задачай—арганізацыяй сустрэчнага патоку прамтавараў з гораду ў вёску.

Колгасны гандаль увайшоў у быт. Яго горача вітае рабочы-спажывец. Але колгасны гандаль адначасова да многага абавязвае прамысловасьць і паасобнага рабочага.

Калі мы ня здолеем забясьпечыць у трэцім квартале—у пэрыод рэалізацыі ўраджаю—сваячасовага і дастатковага завозу прамтавараў у вёску, гэтым самым мы затармозім выкананьне пляну збожжазагатовак і разьвіцьцё колгаснага гандлю.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**ДЛЯ ЗАЎВАГ**

Згодна ўказаньня партыі і ўраду ў трэцім квартале на сяло павінна быць кінута такая колькасьць тавараў, якой **яшчэ ніколі** ня мела вёска ў пэрыод рэалізацыі ўраджаю .

Трэці квартал зьяўляецца асабліва адказным для лёгкай прамысловасьці ўсяго СССР (у асноўным працуючай на шырокі рынак), якая павінна выпусьціць за квартал на 2 млрд. 300 млн. руб. продукцыі.

Гэтую расшыраную програму вытворчасьці лёгкая прамысловасьць павінна поўнасьцю выканаць, рашуча ліквідаваўшы зьніжэньне вытворчасьці, якое намецілася ў канцы другога кварталу. Але і гэтага мала. Побач з гэтым прамысловасьць павінна поўнасьцю выканаць **дадатковае** ўрадавае заданьне па выпуску прадметаў шырспажыву для сяла з **адходаў вытворчасьці.** Гэтая задача тычыцца ня толькі лёгкай прамысловасьці і прамысловай коопэрацыі, у яе вырашэньне павінны актыўна ўдзельнічаць і лясная прамысловасьць, і

цяжкая індустрыя, прычым апошняя абавязана выпусьціць звыш сваёй асноўнай праграмы на 500 млн. руб. тавараў шырокага спажываньня.

Штогодна ў нас прападаюць на дзесяткі мільёнаў рублёў мільёны тон рознай сыравіны, якая ідзе на адкіды. Не для каго не сакрэт, што двары нашых заводаў абрасьлі цэлымі гарамі ўсякіх адходаў, што вельмі каштоўныя адходы мэталю—кавалкі жалеза, высокаякаснай сталі, чыгуну і медзі, бракаваныя дэталі—без разбору ідуць на пераплаўку ў мартэны, а адходы дрэва, зусім годныя для таго, каб рабіць з іх сталы, крэслы, зэдлікі ды іншыя прадметы для патрэб рабочых і колгасьнікаў, ідуць на паліва.

Досыць сказаць, што адзін завод «Красный Аксай» (Паўночны Каўказ) ужыў як паліва 102 **т** такіх адходаў за другі квартал. На заводзе імя **Ўладзімера Ільліча** адходы вытворчасьці штомесячна даюць 80 тыс. **т** мэталю, зусім годнага для вырабу сякер, калуноў ды іншых

ДЛЯ ЗАЎВАГ

неабходных для вёскі рэчаў. А між тым для нядаўняга часу 60 т з гэтых 80 ішлі назад у вагранку, а 20 т прадаваліся за бясцэнак «Металлолому».

Можна сабе ўявіць, якія нязьлічоныя багацьці ў выглядзе розных адходаў мы штогодна выкідаем на вецер. І адначасова з гэтым у нас стаіць бяз дзела вялікая колькасьць абсталяваньня, якую лёгка можна скарыстаць для перапрацоўкі гэтых адходаў.

Пролетарская дзяржава ня можа быць марнатраўнай. Усё, што можна, павінна быць скарыстана для палепшаньня матэрыяльна-бытавога становішча працоўных нашай краіны — будаўнікоў соцыялізму. Ужо першыя крокі ў адносінах выпуску тавараў шырспажыву з усёй нагляднасьцю паказалі, якія невычарпальныя магчымасьці мы маем у справе скарыстаньня адходаў.

Завод імя **Пятроўскага** за адзін ліпень месяц перапрацаваў 290 т адходаў, выпусьціўшы дэталі хадкоў, брычачныя шыны, падсьпіца-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

вые абручы ды іншыя, вельмі неабходныя і востра дэфіцытныя тавары.

Завод **«Интернационал»** у Запарожжы штомесячна пачаў выпускаць з адкідаў, якія раней ішлі на звалку, 10 т гваздоў, тросы для калодзежаў на 8 тыс. руб., дроту на 3 тыс. руб., ланцугоў на 2 тыс. ды іншыя тавары для вёскі.

Больш чым на 100 тыс. руб. штомесячна выпускае тавараў Ленінградзкі **«Красный гвоздильщик».** Тут робяць гвазды, зубы для барон, граблі, матыкі, тэлефонны дрот, абцугі для бляхароў і т. д.

Харкаўскі электрамэханічны завод бярэцца выпусьціць на 1 млн. руб. шырспажыву да канца гэтага году. У номэнклятуру вытворчасьці тут уваходзяць электрычныя скаварадкі, пліты, каструлі, мыла і шмат іншых тавараў.

Сто найменьняў прадметаў шырспажыву (галоўным чынам, сялянскі інвэнтар) выпускае ўтыльцэх **Сталінскага** трактарнага заводу.

10 тыс. вэлёсыпэдаў, 200 тыс. стальных шыл, 400 тыс. колцаў для



ДЛЯ ЗАЎВАГ

дзьвярэй ды іншыя рэчы выпускае **Харкаўскі** вэлёзавод.

На 162 млн. руб. тавараў звыш програмы абавязваецца выпусьціць да канца году **прамысловая коопэрацыя** з адходаў прамысловасьці.

Гэтыя факты красамоўна гавораць аб вялізарных дадатковых магчымасьцях у справе задавальненьня попыту патрэб працоўных, ня робячы якіх-небудзь капітальных укладаньняў, а толькі на аснове мобілізацыі ўжо наяўных унутраных рэсурсаў на фабрыках і заводах.

Зразумела, чаму ўвага партыі і ўраду зараз накіравана на тое, каб максымальна скарыстаць **усе магчымасьці, усе вагары** для мобілізацыі ўнутраных рэзэрваў прамысловасьці.

За апошнія месяцы партыя і ўрад вынесьлі рад рашэньняў, якія павінны забясьпечыць дадатковы выпуск прадметаў шырспажыву з адкідаў вытворчасьці на сотні мільёнаў рублёў.

Гэтыя рашэньні маюць асабліваe значэньне для парторганізацыі Бе-

**ДЛЯ ЗАЎВАГ**

ларусі, бо Беларусь мае ў асноўным лёгкую індустрыю, на якую ў **першую чаргу** (вядома, не без дапамогі цяжкай індустрыі) кладзецца абавязак пакрыць попыт краіны, які надзвычайна ўзрастае. Улічваючы гэтую адказнасьць перад краінай за справу разгортваньня вытворчасьці прадметаў шырспажыву, аб'яднаны ліпеньскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б зьвярнуў увагу ўсёй парторганізацыі на тое, што **«пытаньні разгортваньня савецкага гандлю зьяўляюцца рашаючымі пытаньнямі на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва»** і даў контрольныя лічбы мясцовай прамысловасьці па шырспажыве. У першым пункце практычнай часткі рэзолюцыі гаворыцца:

> **«Лічачы, што разгортваньне работы па выпрацоўцы прадметаў шырокага спажываньня зьяўляецца важнейшай умовай узмацненьня тавараабароту і стымуляваньня колгасьніка і працоўнага аднаасобніка ў справе разгортваньня гандлю сельскагаспадар-**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

чымі продуктамі, пленум ЦК і ЦКК абавязвае Наркомлёгпрам, Наркомцяжпрам, Наркомлеспрам, Наркомснаб, мясцовую прамысловасьць і прамкоопэрацыю, побач з абавязковым выкананьнем асноўнай гадавой програмы па выпрацоўцы прадметаў шырокага спажываньня, поўнасьцю выканаць зацьверджаную Бюро ЦК і СНК БССР дадатковую програму выпрацоўкі прадметаў шырокага спажываньня да канца 1932 г. (чэрвень — сьнежань).

Па Наркомлёгпраму 9.400 т. руб., Наркомцяжпраму—2.540 тыс. руб., прамкоопэрацыі—14 223 тыс. руб., Леспраму—1 128 500 руб , лясной прамысловасьці—1 512 тыс руб., Наркомснабу—462 180 руб., інваліднай коопэрацыі—799 800 руб. і інш. організацыях — 540 тыс. руб., а ўсяго 30 605 480 руб.»

(З рэзолюцыі ліпеньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б).

Больш чым на 30 млн. руб. тавараў шырспажыву да канца году—

ДЛЯ ЗАЎВАГ

гэта—адказная задача, гэта,—не маленькі ўклад у агульны фонд тавараабароту наша йкраіны.

Аднак, трэба сказаць, што гэтыя важнейшыя дырэктывы пленуму ў адносінах выпуску тавараў шырспажыву да гэтага часу выконваюцца прадпрыемствамі і арцелямі Беларусі надзвычайна павольна. Выраб тавараў шырспажыву атрымала ў нас больш-менш шырокае разьвіцьцё толькі за апошнія 1—2 мес. Рэзультат гэтай дзейнасьці пакуль яшчэ невялікі.

Агульная сума выпушчаных тавараў шырспажыву на многа менш скрытых магчымасьцяй нашай прамысловасьці.

Ня гледзячы на тое, што многія перадавыя заводы Саюзу ўжо даказалі на справе, што дадатковы выраб тавараў шырспажыву на кожным прадпрыемстве—справа магчымая і неабходная, у нас у радзе прадпрыемстваў усё яшчэ ня зжыты высокамерныя адносіны да шырспажыву. Завод выконвае адказную праграму і раптам зьнізіцца да якой-небудзь дробязі на-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

кшталт лыжкі або зэдліка. Гэта ня вяжацца ў галовах многіх нашых кіраўнікоў фабрык, і работнікаў аб'яднаньняў. У рэзультаце значная колькасьць прадпрыемстваў, маючых вялікія магчымасьці па выпуску прадметаў шырспажыву, яшчэ зусім не прыступіла да працы.



Топчацца на месцы Віцебскі **«Чырвоны мэталіст»,** яшчэ слаба раскачваецца буйнейшае прадпрыемства Бабруйскага раёну—**дрэваапрацоўчы комбінат,** бязьдзейнічае бабруйскі рамонтны завод **імя Варашылава,** хоць мае шырокія магчымасьці для выпуску шырспажыву.

Аналёгічнае становішча на Рэчыцкім заводзе імя Томскага. Тут адкідамі завален увесь чыста двор, так, што немагчыма прайсьці, аднак, з організацыяй утыльцэху не сьпяшаюцца,—пакуль што ўсё распрацоўваюць пляны. Да гэтага часу нават не прыступілі да складаньня пляну на Віцебскім фанерным заводзе.

Некаторыя прадпрыемствы сталі на шлях прамога «очковтиратель-

ства», абы толькі адмовіцца ад вырабу тавараў на шырокі рынак. Так, напрыклад, іголкавая фабрыка (Віцебск), атрымаўшы ўказаньне распачаць выраб шырспажыву, замест таго, каб знайсьці дадатковыя магчымасьці, назвала шырспажывам ужо выпускаемыя ёю да гэтага часу у плянавым парадку гвазды, неабходныя пры ўстаўленьні шыб у рамы.

На панчошнай фабрыцы «КІМ» ужылі яшчэ больш спрытны прыём. Тут ляжала 13 тыс. пар бракованых панчох. Дырэкцыя парашыла выдаць гэты брак за выраб шырспажыву, як гаворыцца, адразу забіла двух зайцоў: брак сплавілі і «дырэктыву выканалі»—выпусьцілі панчох на 100 тыс. руб.

На войлачнай фабрыцы парашылі, што ня варта ламаць галаву над шуканьнем дадатковых магчымасьцяй і, ня доўга думаючы, выкінулі такі трук: з кожнай пары валёнак, выпускаемай у плянавым парадку, парашылі зьняць па 33 г і за лік гэтай «экономіі» (г. зн., больш правільна, за лік якасьці асноўнай про-

дукцыі) выпускаць дадаткова валёнкі, як шырспажыў.

Такіх выпадкаў зафіксавана нямала і на іншых прадпрыемствах.

Адмахваюцца ад шырспажыву і іншым шляхам. Замест таго, каб выявіць і скарыстаць усе наяўныя магчымасьці, бяруць **мінімальныя** пляны, намячаюць тыя вырабы, вытворчасьць якіх не выклікае ніякіх цяжкасьцяй, і лічаць свае абавязкі выкананымі. Так, фабрыка гнутай мэблі, раскачаўшыся к 15 ліпеню, парашыла выпускаць дадатковых тавараў шырспажыву штодзенна на 100 руб. Узьнікае пытаньне, чаму іменна на сто? Пытаньне як належыць прапрацавана ня было, у масах не абмяркоўвалася, а такая лічба радзілася ў галаве дырэктара Ісьянава і ўвайшла ў плянавыя намёткі. Але сам дырэктар сазнаецца, што фабрыка лёгка магла-б выпускаць продукцыі і на 400 руб. у дзень, але для гэтага патрэбна месца для вытворчасьці і некаторыя прыспасабленьні. Падумаць-жа аб тым і другім, дабіцца таго і другога дырэктару, як відаць, ня хо-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

чацца, і ён спыняецца на спакойнай і не патрабуючай клопатаў лічбе 100.



Завод імя **Варашылава** (у Менску, запроектаваў выпусьціць у трэцім квартале на 34 тыс. руб. прадметаў шырспажыву. Аднак, за адзін месяц выпушчана продукцыі ўжо на 30 тыс. руб. Завод імя Варашылава (да рэчы сказаць, яшчэ ня мае нават утыльцэху) ганарыцца сваім дасягненьнем. Аднак, гэта не дасягненьне, а недахват плянаваньня, калі завод, пераменшыўшы свае вытворчыя магчымасьці без асаблівых цяжкасьцяй (пры дрэннай організацыі вытворчасьці) выконвае плян на 260 проц. у месяц.

Пераменшэньне пляваў па шырспажыве—вельмі распаўсюджанае зьявішча на заводах нашай БССР. Аднак, і гэтыя пераўменшаныя пляны вельмі часта і ня ўсюды выконваюцца.

Калі мы возьмем лічбы па адным Менску (а па Менску справа з шырспажывам абстаіць усё-ж лепш, чым па іншых гарадох БССР), то

убачым, што значная большасьць прадпрыемстваў ня выконвае пляnaў, якія намячаюцца. Так, перадавы завод «Бальшавік» на 25 ліпеня выканаў месячны плян толькі на 20 проц., завод «Комунар» за месяц даў 40 проц. пляну, «Ударнік» — 34 проц., «Восход» на 26 проц.

На першы погляд лепш як іншыя спраўляецца з задачай завод імя **Молатава:** ён выканаў 82 проц. пляну, але калі мы прыгледзімся да асортымэнту і вартасьці выпускаемай продукцыі, то пабачым, што тут таксама справа абстаіць больш чым ня бліскуча. Завод імя Молатава выяжджае на продукцыі, якая дорага каштуе—выпускае для шырспажыву шафы, якія каштуюць па 160 руб. і тумбачкі—па 21-23 руб. Зразумела, што такая работа на шырспажыў зьяўляецца ня больш як «очковтирательством» і зусім не адпавядае патрабаваньням партыі. Нажаль, завод імя Молатава зусім не зьяўляецца сумным выключэньнем у адносінах выбару асортымэнту для шырспажыву.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Па лініі прадпрыемстваў Швэй-аб'яднаньня зараз рыхтуецца як шырспажыў на 800 тыс. руб. паліто і куртак на 1000 руб.

**Скарняжная** фабрыка ў Менску выпускае на шырспажыў коцікавыя манто, якія каштуюць па 1500 руб., Фабрыка **«Акцябр»** энэргічна ўзялася за выпуск шоўкавых падушак для канап. **Акулярная** фабрыка ў Віцебску, згодна компэтэнтнаму ўказаньню Мэталяаб'яднаньня, запроектавала выпуск звыш пляну для шырспажыву... шофэрскія акуляры.

**Коопэрацыя не вывучае попыту рынку, а ўсьляпую купляе тое, што выпускае той ці іншы таваравытворац.**

У дагаворах Белкоопсаюзу з прамкоопэрацыяй у спэцыфікацыях указана толькі, якія групы тавараў павінны выпрацоўвацца, напрыклад: «скабянога тавару на такую-та суму» і ўсё. А што гэта за скабяны тавар,—нікому невядома. А між тым не сакрэт, што сялянскі асортымэнт уключае ў сябе каля

ДЛЯ ЗАЎВАГ



3 тыс. найменьняў мэталічных вырабаў.

**Выбар асортымэнту цалкам пакінут на самацёк.** Ня дзіва, што бадай ці ня самым «востра дыфіцытным» таварам, які зараз ня ў меру часта вырабляюць, сталі звычайны нож і відэлец тады, як гвозд, без якога літаральна ня можа абыйсьціся вёска, зьяўляецца госьцем у нашых утыльцэхах.

Усе гэтыя і шмат іншых фактаў з усёй нагляднасьцю гавораць аб тым, што ні спажыўкоопэрацыя, ні аб'яднаньні, ні самі прадпрыемствы не падышлі з належнай сур'ёзнасьцю да гэтай справы.

Самацёк у вырабе прадметаў шырокага спажываньня наглядна адчуваецца ў тым факце, што вельмі многімі прадпрыемствамі (у тым ліку і буйнейшымі прадпрыемствамі БССР) да гэтага часу ня выканана дырэктыва партыі і ўраду аб арганізацыі **спэцыяльных утыльцэхаў.** Нават больш. Гэтая ідэя сустрэла прамое супраціўленьне з боку цэлага раду кіраўнікоў прадпрыемстваў.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

На заводзе імя **Варашылава** (Менск) партком пастанавіў organізаваць утыльцэх да 1 ліпеня. Цэху няма і да гэтага часу. Дырэктар т. Дзічкоўскі лічыць, што можна абыйсьціся і бяз цэху, бо кожны цэх паасобку можа «паміж іншым» працаваць на шырспажыў.

На нарадзе аб шырспажыве пры Менскім гаркоме партыі дырэктар заводу **«Комунар»** разьвіў цэлую тэорыю аб непатрэбнасьці ўтыльцэхаў: «Ствараць спэцыяльныя цэхі няма сэнсу,—гаварыў ён,—з гэтага нічога ня выйдзе; калі я пастаўлю працаваць побач бляхара і сьлесара, то яны ў мяне паб'юцца».

Аналёгічныя погляды мае і дырэкцыя Рэчыцкага заводу імя **Варашылава** і шмат іншых гаспадарнікаў і партработнікаў.

У рэзультаце да гэтага часу **большасьць прадпрыемстваў БССР яшчэ ня мае ўтыльцэхаў.**

Вось такі, пакуль яшчэ нездавальняючы, стан вырабу шырспажыву на сёнешні дзень.

Аб чым гавораць гэтыя факты? Яны гавораць перш за ўсё аб тым,



ДЛЯ ЗАЎВАГ

што многія **партыйныя арганізацыі і ячэйкі як сьлед не зразумелі гаспадарча-палітычнага значэньня дырэктыў аб шырспажыве.** Яны гавораць аб тым, што дырэктывы гэтыя ўспрыняты не як палітычны лёзунг дня, не як **сыстэма мер,** забясьпечваючых трывалы і рэгулярны дадатковы выпуск тавараў, а толькі як **часовыя і выпадковыя мерапрыемствы** другараднага значэньня, міма якіх можна прайсьці.

Такія настроі катэгорычна асудзіў пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б.

У трэцім пункце рэзолюцыі гаворыцца:

> «Пленум катэгорычна асуджае пагардлівыя адносіны паасобных гаспадарчых організацый да наладжваньня вырабу прадметаў гаспадарчага спажываньня, дробных прадметаў, неабходных працоўнаму спажыўцу ў быце і гаспадарцы».

Аднак і пасьля пленуму такія настроі яшчэ далёка ня зжыты. Адсюль опортуністычныя тэмпы ў рабоце па шырспажыву. Адсюль гру-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

бейшыя скажэньні лініі партыі ў гэтым пытаньні па радзе прадпрыемстваў.

У нас не ласьпелі яшчэ як сьлед узяцца за справу, а ўжо дапусьцілі шмат хібаў і памылак як праваапортуністычнага, так і «лявацкага» парадку.

У некаторых мясцох мы маем нэпманскі дух у калькуляцыі цэн на прадметы шырспажыву. Накладныя расходы часта дасягаюць вялізарных процантаў, надбаўкі робяцца бяз усякага абмежаваньня. Разрыў паміж сабекоштам і продажнай цаной дасягае часам да 100 і больш процантаў. На заводзе **«Бальшавік»** на скураныя дзіцячыя лапці ідзе сыравіны ўсяго на 6 кап., зарплата за работу пары лапцей 1 руб. 25 кап., на рынак-жа лапці выпускаюцца коштам 3 руб. 25 кап. Сабекошт шафаў, якія прадаюцца заводам імя Молатава па 150—160 руб.,—100—110.

Такое імкненьне «паднажыцца» за кошт тавараў шырспажыву бязумоўна зьяўляецца нездаровым настроем. Яно павінна сустрэць су-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ровы адпор з боку партыйнай і рабочай грамадзкасьці.

Некаторыя заводы дапускаюць скрыўленьне дырэктыў партыі ў тым напрамку, што пускаюць на выраб прадметаў шырспажыву не **адходы, а добраякасную сыравіну,** якая павінна быць скарыстана на асноўных відах вытворчасьці. Такія выпадкі часткова мелі месца на заводзе імя **Варашылава** і некаторых іншых заводах.

Няма чаго і гаварыць, што такія дзеяньні зводзяць на нішто ідэю скарыстаньня адкідаў вытворчасьці на дадатковы выпуск прадметаў шырспажыву. Такія дзеяньні, якія вядуць да зрыву асноўных плянаў вытворчасьці, павінны сурова выкрывацца, а віноўныя прыцягвацца да самай строгай адказнасьці.

Вялікія ненормальнасьці мы маем у радзе выпадкаў у галіне ўзаемаадносін паміж прадпрыемствамі і прамысловымі арцелямі. Далёка ня ўсе заводы могуць поўнасьцю рацыянальна скарыстаць адходы сваёй вытворчасьці. Гэта ставіць пе-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

рад заводамі задачу цеснага супрацоўніцтва з прамкоопэрацыяй, якая ў некаторых выпадках больш прыстасавана да выпуску тых ці іншых тавараў.

Заводы абавязаны аддаваць адходы, якіх яны ня могуць рацыянальна скарыстаць, прамкоопэрацыі. Між тым зараз мы маем такое становішча, што заводы, якія пачалі выпуск прадметаў шырспажыву, зусім перасталі даваць арцелям непатрэбныя ім адходы. У рэзультаце становішча многіх арцеляй, якія працуюць на шырспажыў, ня толькі не палепшылася за апошні час, як гэта павінна было-б быць, а, наадварот, стала вельмі напружаным. Ультыфабрыцы ў Менску пагражае спыненьне за недахватам сыравіны. Некаторыя арцелі скарацілі кольказсьць сваіх рабочых у два і тры разы, бо работы не хапае. І ў гэты час паасобныя прадпрыемствы, ідучы па лініі найменшага супраціўленьня, бяруцца за выраб такіх тавараў, якія ўжо выпускала на рынак з іх адходаў тая ці іншая суседняя арцель.

Прыкладаў ня трэба далёка шукаць. Завод **«Бальшавік»** замест таго, каб знайсьці магчымасьці выпуску дадатковых прадметаў, пераманіў з абутковай арцелі шаўцоў і ўзяўся сам шыць дзіцячы абутак і балеткі. Для гэтага заводу прышлося набываць у прыватнікаў спэцыяльныя прымітыўныя машыны і прыспасабленьні, а добра абсталяваная арцель, якая была ўжо прыстасавана для гэтай справы, зараз ледзь дыхае. Зразумела, што гэта зусім не бальшавіцкая барацьба за шырспажыў, а толькі жаданьне адмахнуцца ад яе.

Ёсьць і больш няпрыкрытыя спробы ўвесьці ў заблуджэньне пралетарскую грамадзкасьць, пусьціць пыл у вочы адносна сваёй работы аб выкананьні дырэктыў партыі па шырспажыву. Узоры бесцарамоннасьці дала ў гэтых адносінах фабрыка імя **Крупскай.** Некаторыя арцелі саматужна-прамысловага саюзу ўзяліся за выпуск вельмі добрай якасьці вяровак з найдрабнейшых абрэзкаў тканіны, якія ніяк ня могуць быць скарыстаны для вы-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

творчасьці. Выпускам вяровак з гэтых адходаў саматужна-прамысловы саюз можа зрабіць вялікую справу—зьберагчы 360 т пянькі за квартал. Здавалася-б, што фабрыка павінна была пайсьці насустрач арцелям **у іх жаданьні скарыстаць** непатрэбныя ёй адходы, але фабрыка спачатку адмовіла зусім даць адходы, а калі пераканалася, што ў сябе яна іх скарыстаць ніякім чынам ня можа, парашыла даць іх пры ўмове... калі выпрацаваныя з адходаў вяроўкі будуць зьвернуты на фабрыку для рэалізацыі з тым, каб фабрыка магла залічваць іх у свой актыў па шырспажыву.

Усе гэтыя і шмат іншых недахопаў у рабоце па шырспажыву, якіх тут пералічыць няма магчымасьці, могуць быць пераможаны толькі пры ўмове бальшавіцкай мобілізаванасьці вакол гэтага важнейшага пытаньня сёнешняга дня ўсёй парторганізацыі зьверху данізу.

Шматлікія факты з вопыту перадавых заводаў СССР гавораць аб тым, што там, дзе парторганізацыя здолела своечасова даць адпор ны-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

цікам і малаверам,—там здолелі дабіцца рашаючых посьпехаў у справе выкананьня дырэктыў партыі аб дадатковым выпуску тавараў.

Досыць прывесьці такія факты: некалькі месяцаў таму назад утыльцэх Кузьнецкага мэталюргічнага заводу (Сталінск) вывеў з цяжкага становішча ўсю колёсальную будоўлю. У разгар работ на будоўлі не хапіла заклёпак і гваздоў; яны маглі паступіць на будаўніцтва ў лепшым выпадку праз 10—12 дзён. Тады пры дружным падтрыманьні рабочых тэрмінова быў організован утыльцэх, які, ня маючы спэцыяльнага абсталяваньня, шпарка наладзіў масавы выраб заклёпак і гваздоў з адкідаў і дроту, якія тут валяліся. Забясьпечыўшы будоўлю тым і другім, утыльцэх перайшоў на выраб іншых прадметаў шыр- спажыву.

Добрым прыкладам можа служыць Любарэцкі завод сельскагаспадарчых машын, які з красавіка месяца ўжо выпусьціў з адходаў на 244 тыс. руб. гатовай про-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

дукцыі, а па пляну павінен выпусьціць да канца году на 1 млн. 47 тыс. руб. розных тавараў шырспажыву. Любарэцкі завод, не чакаючы цэнтралізаваных заказаў, сам вывучае попыт свайго спажыўца. Рабочыя брыгады, выяжджаючы ў колгасы, выявілі, што Жулябінскаму колгасу патрэбна жалезных гваздоў, 200 сякер, 6 тыс. пяцель, 400 утулак і т. д. У адпаведнасьці з запытамі колгасаў завод будуе пляны свайго асортымэнту.

«Электразавод», «Серп и Молот», завод імя Орджонікідзэ, «Красный Гвоздильщик» і шмат такіх, як і Любарэцкі завод, злолелі хутка ўспрыняць рашэньні партыі і ўраду аб выпуску тавараў шырспажыву. Вопыт гэтых і дзесяткаў іншых перадавых прадпрыемстваў паказвае, якія вялізарныя магчымасьці мае наша прамысловасьць, як утыльцэхі могуць зьявіцца магутным сродкам задаволеньня запытаў рынку, у першую чаргу — вясковага рынку.

Чаму дабіліся посьпеху ўказаныя прадпрыемствы? Ніякіх асаблівых і выдатных форм работы яны, вядома, ня выдумалі. Парторганізацыі гэтых заводаў здолелі дабіцца рашаючых посьпехаў старым мэтодам—на падставе **сапраўднай мобілізацыі ўсяго колектыву заводу вакол гэтай справы. Мобілізацыя мас вельмі часта выпускаецца з-пад увагі нашымі заводзкімі організацыямі.** Вядома, ня можна сказаць, што заводзкія організацыі ў нас не займаліся пытаньнямі шырспажыву і зусім не вялі масава-растлумачальнай работы. Формальна робіцца тое і другое, але фактычна гэта дае вельмі нявялікія рэзультаты. Парт-і профорганы вельмі часта толькі штампуюць намёткі гаспадарнікаў па шырспажыву і прапануюць «выправіць хібы».

Возьмем для прыкладу завод **«Чырвоны мэталіст»** у Віцебску. Бюро партколектыву гэтага заводу лічыць, што яно працуе па шырспажыву. Узьнікае пытаньне, у чым-жа заключаецца гэтая работа?

22 чэрвеня слухалі аб шырспажыве і пастанавілі:

**«Адзначыць, што да апошняга часу ня было аддана дастатковай увагі справе організацыі выпуску тавараў шырокага спажываньня».**

Значыцца да 22 чэрвеня бюро спала, калі шырспажыву на заводзе увагі не аддалі. Але-ж якія вывады зрабіла бюро цяпер, сутыкнуўшыся тварам да твару з фактам бязьдзейнасьці? Можа цяпер бюро парашыла сур'ёзна ўзяцца за работу і разгарнуць конкрэтную работу па мобілізацыі мас вакол організацыі гэтай справы? Зусім не. Бюро заслухала і пастанавіла:

**«З агульнай намёткай пляну** (да рэчы сказаць, вельмі зьніжанага супроць папярэдняга месяца, калі, як прызнаецца само бюро, справа ішла дрэнна і самацёкам) **згадзіцца (?). Прапанаваць заводакіраўніцтву вылучыць спэцыяльнага брыгадзіра, адказнага за гэтую справу. Адказнасьць за організацыю работы ўскладзена на т. Крыгеля. На працягу адна-**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**го месяца давесьці гэтую справу да організацыі паасобнага цэху па выпрацоўцы прадметаў шырокага спажываньня».**

Усклаўшы адказнасьць і прапанаваўшы організаваць цэх, г. зн. зачураўшыся на ўсе бакі, бюро супакоілася і палічыла сваю місію скончанай. Ці трэба гаварыць, што «на працягу месяца», у які меркавалася цэху быць організаваным, справа асталася без перамен. Зразумела, што гэта не партработа, а бюрократычнае кручкатворства.

Масава-растлумачальная работа вельмі часта носіць характар **абязьлічанай** агітацыі і таму не дае належнага эфэкту.

Парторганізацыям, якія ня ўмеюць справіцца з гэтай задачай, трэба самым уважлівым чынам вывучыць вопыт масава-растлумачальнай кампаніі, праведзенай заводамі-перадавікамі. Парторганізацыі гэтых заводаў здолелі ахапіць растлумачальнай кампаніяй пагалоўна ўсіх рабочых і работнікаў ІТР і напоўніць гэтую кампанію **конкрэтным зьместам.**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

На Любарэцкім заводзе і заводзе імя **Орджонікідзэ** на рабочых сходах у цэхах, у брыгадах не займаліся гутаркамі наогул, а прыводзілі вычарпальныя даныя аб магчымасьцях скарыстаньня ўтыльадходаў па заводзе ў цэлым, па кожным вытворчым вучастку паасобку. У кожным цэху былі выбраны **брыгады рабочых** для выяўленьня адходаў, незагружанага абсталяваньня, пустуючага памяшканьня і т. д. Быў абвешчан конкурс **рабочых прапаноў** па вырабу прадметаў шырспажыву, прычым, каб накіраваць рабочую вынаходніцкую мысьль у пэўнае русло, работнікі ІТР склалі **тэмнікі** з указаньнем адходаў, якія ёсьць па цэхах, і прапанавалі рабочым ў гэтым тэмніку рад конкрэтных пытаньняў, якія патрабуюць хутчэйшага вырашэньня ў інтарэсах справы.

Паступаючым прапановам быў забясьпечан разгляд без затрымкі. За прапанову па шырспажыву ўстанаўлялася павышанае прэміяваньне. Рабочыя брыгады арганізавалі шляхам выезду ў вёску збор

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**прапаноў** па выпуску шырспажыву ад **колгасьнікаў і аднаасобнікаў.**

ІТР арганізавалі **выстаўкі ўтылю,** наглядна паказаўшы, як рабочыя асвоілі працэсы перапрацоўкі ўтылю і ператварэньня простага ржавага кавалка мэталю ў грамадзка-карысны прадмет шырспажыву.

Разгарнуўшы, такім чынам, масавую работу, парторганізацыі прыступілі да правядзеньня вытворчых нарад у **кожнай** брыгадзе, у кожным цэху, а потым агульна-заводзкіх вытворчых конфэрэнцый.

У нас на заводах дрэнна абстаіць справа з вытворчымі конфэрэнцыямі і нарадамі, ня гледзячы на тое, што адносна гэтага было спэцыяльнае ўказаньне агітмасу ЦК КП(б)Б. На заводзе імя Молатава конфэрэнцыя некалькі разоў зрывалася, нарэшце, будучы скліканай, не дала належнага вытворчага эфэкту. Асноўная прычына такога зьявішча тая, што перад вытворчымі нарадамі і конфэрэнцыямі ў нас вельмі часта ня бывае неабходнай стараннай падрыхтоўкі. На



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Любарэцкім заводзе, як і на заводзе імя Орджонікідзэ, на кожнай вытворчай нарадзе былі прадстаўлены матэрыялы па **загрузцы абсталяваньня,** па падшуканьні дадатковых матэрыялаў з адходаў, па ўкомплектаваньні ўтыльцэху рабочай сілай ды іншыя матэрыялы, загадзя сабраныя і распрацаваныя работнікамі ІТР і спэцыяльнымі рабочымі брыгадамі і даючыя магчымасьць вытворчай нарадзе выясьніць пэўнае пытаньне на пэўным вытворчым вучастку.

Старанна падрыхтаваныя нарады далі багаты матэрыял, які быў потым пакладзен у аснову распрацоўкі сустрэчных плянаў побач з прапановамі, паступіўшым ад паасобных рабочых і колгасьнікаў.

На вытворчых нарадах і конфэрэнцыях, асаблівая ўвага зьвярталася на пытаньне падбору **асортымэнту.** Зусім відавочна, што той факт, што на прадпрыемствах нашай БССР справа з асортымэнтам па шырспажыву зараз абстаіць вельмі нядобра (добрая палавіна выпускаемых тавараў не адпавядае



ДЛЯ ЗАЎВАГ

попыту), упіраецца сваімі карэньнямі ў той бюрократычны падыход да выращэньня пытаньня, які мы зараз маем у радзе прадпрыемстваў. Калі-б пляны асортымэнтаў складаліся з масамі, а не за сьпіной у мас, мы, бязумоўна, ня мелі-б такога становішча.

Выпускаемыя намі на сёньня тавары шырспажыву ні па колькасьці, ні па якасьці і асортымэнту не адпавядаюць магчымасьцям прамысловасьці і прамкоопэрацыі. Нездавальняючае становішча з шырспажывам патрабуе тэрміновых мер па перабудове.

Што трэба зрабіць?

1. У першую чаргу трэба паставіць справу на рэльсы шырокай масавасьці, пачаць з шырокіх, добра падрыхтаваных вытворчых нарад і конфэрэнцый у кожнай брыгадзе, кожным цэху кожнага заводу. Трэба помніць, што кіраўніцтва партыйнай організацыяй, якое ня здолела перамагчы пагардлівых адносін да вырабу тавараў шырспажыву, якое ня здолела прыцягнуць да

ДЛЯ ЗАЎВАГ

гэтай справы сапраўды шырокія масы, — дрэннае кіраўніцтва.

2. Неабходна дабівацца рэзкага пералому ў адносінах **утыльсыравіны**. Гэтае важнейшае пытаньне ў нас яўна недаацэньваецца. Якое вялізарнае значэньне мае загатоўка ўтылю для павялічэньня вырабу тавараў шырспажыву, відаць хоць-бы з такога факту, што ў шарсьцяной прамысловасьці 50 проц. усёй сыравіны складае рызьзё. Між тым, плян загатовак рызьзя ў першым паўгодзьдзі выканан ўсяго на 30 проц. Асноўны недахоп работы па зборы ўтылю заключаецца ў тым, што да гэтай справы на ?рыцягнута пролетарская грамадзкасьць. Работа вядзецца амаль выключна спэцыяльнымі зборшчыкамі, ніякай масава-растлумачальнай работы ні парторганізацыі, ні профорганізацыі не праводзяць. Трэба правесьці шырокую растлумачальную кампанію па зборы ўтылю сярод рабочых і неорганізаванага насельніцтва.

Парторганізацыі заводаў павінны організаваць спаборніцтва

ДЛЯ ЗАЎВАГ

прадпрыемстваў па зборы ўтылю. На справу збору ўтылю па кватэрах (старога рызьзя, старых галёш ды інш.) павінны быць прыцягнуты профсаюзы, комсамол і грамадзкія організацыі. Сотні тысяч тон утылю павінны быць ператвораны ў новыя тавары шырспажыву.



3. Неабходна нанова перагледзець пляны і асортымэнты не на аснове лічбаў, узятых з «потолка» і вымышленьняў, што часта мы маем зараз, а на аснове дакладна ўлічаных магчымасьцяй вытворчасьці і дакладнага вывучэньня рынку.

Распрацоўка асортымэнту павінна весьціся з двух канцоў—**зьверху** (наркомат, аб'яднаньне, Белкоопсаюз) і **зьнізу** (вытворчая нарада заводу і колгасу) — з тым, каб, срыжаваўшыся разам, яны маглі даць на шырокі рынак тое, што патрэбна працоўным масам.

4. Трэба раз назаўсёды пакласьці канец бюрократычным спрэчкам, якія атрымалі ў нас зараз шырокае распаўсюджаньне асабліва па мэталязаводах — патрэбны ці

непатрэбны спэцыяльныя ўтыльцэхі. Адносна гэтага існуюць два процілеглых погляды. На адных заводах, як гэта мы ўказвалі вышэй, лічаць, што стварэньне ўтыльцэхаў — непатрэбная справа, што прадметы шырспажыву з посьпехам могуць вырабляцца ў розных цэхах заводу. Другія лічаць, што шырспажыў—гэта справа выключна ўтыльцэху і астатнія цэхі не павінны мець ніякага дачыненьня да шырспажыву. Вопыт перадавых заводаў які трэба было-б добра вывучыць на нашых прадпрыемствах, паказвае, што і той і другі пункт гледжаньня зьяўляецца крайнасьцямі, а правільны пункт гледжаньня знаходзіцца пасярэдзіне. Найбольш метазгодны комбінаваны мэтод вытворчасьці, калі, выходзячы з мэтазгоднасьці ў кожным паасобным выпадку, вырабам прадметаў шырспажыву займаюцца і **ўтыльцэху і асноўныя цэхі.** На Любарэцкім заводзе парадак выраба таВараў шырспажыву наступны: паасобныя часткі вырабляюцца ў адпаведных вытворчых цэ-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

хах, а зборка іх праводзіцца ўжо ва ўтыльцэху.

Выраб некаторых рэчаў, калі гэта выклікаецца ўмовамі вытворчасьці, цалкам канчаецца ў асноўных вытворчых цэхах. Узаемаадносіны ўтыльцэху з вытворчымі цэхамі рэгулюецца спэцыяльна заключанымі з імі дагаворамі. Утыльцэх працуе на **гасразьліку**. У цэхах створаны ўтыльбрыгады, якія на месцы сартуюць увесь матэрыял. Адходы, якія нельга скарыстаць непасрэдна ў цэху, перадаюцца ва ўтыльбазу. Ёсьць транспортная брыгада, у распараджэньні якой знаходзяцца перавозачныя сродкі. Парадак вырабу прадметаў шырспажыву на Любарэцкім заводзе трэба рашуча рэкомэндаваць вельмі многім нашым прадпрыемствам. Утыльцэх мае роўныя правы з усімі астатнімі цэхамі. Зусім недапушчальна, калі ўтыльцэх ператвараецца ў падабенства «дзяржавы ў дзяржаве». Усе свае комэрцыйныя опэрацыі ўтыльцэх павінен праводзіць праз збытавы орган заводакіраўніцтва. Гэта не перашкаджае,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

а, наадварот, прадпалагае самы жорсткі **гасразьлік,** заключэньне гасразьліковых дагавораў паміж утыльцэхам і астатнімі цэхамі, **самастойны балянс,** — адным словам, поўную гаспадарчую самастойнасьць утыльцэху **ўнутры заводу.**

5. І нарэшце сур'ёзнае пытаньне аб прамарцелях.

Трэба, не марудзячы ні хвіліны, ва ўсю шырыню паставіць пытаньне **аб умацаваньні сувязі паміж прамысловасьцю і прамкоопэрацыяй,** рашуча перамогшы недаацэнку ролі прамкоопэрацыі ў выпуску тавараў шырспажыву. Ня трэба забывацца, што прамкоопэрацыя павінна даць у гэтым годзе па СССР звыш чым на 3 млрд. руб. тавараў шырспажыву. Паводле заданьня партыі і ўраду прамкоопэрацыя павінна давесьці ў 1933 г. адносную вагу вырабу тавараў шырспажыву да 70 проц. усёй сваёй продукцыі. Прамкоопэрацыя можа выканаць гэтую адказьнейшую задачу толькі пры ўмове, калі на дапамогу ёй прыйдуць фабрыкі і заво-

ды. Нашы прамысловыя прадпрыемствы абавязаны організаваць шэфства сваіх прадпрыемстваў **над роднастнымі па характары вытворчасьці арцелямі прамкоопэрацыі.** У нас, у Беларусі, шэфства прадпрыемстваў над арцелямі яшчэ не знайшло конкрэтнага ўжываньня, у той час, як у радзе абласьцей Саюзу (у прыватнасьці—Маскоўскай і Ленінградзкай абласьцях) рух соцыялістычнай дапамогі прамарцелям набыў ужо масавы характар.

У чым конкрэтна павінна выразіцца гэтае шэфства?

Яшчэ няма дастаткова прапрацаваных і ўстаноўленых форм (яны выпрацоўваюцца ў процэсе работы), але ўжо зараз намеціліся некаторыя зусім бясспрэчныя мэтоды работы. Кожны завод, які ўзяў шэфства, павінен заключыць **соцдагавор** з падшэфнаю арцельлю. Заводы могуць разгарнуць работу па зборы вытворчых адходаў і стварэньні з іх **утыльфондаў** для арцеляй прамкоопэрацыі. Мэтазгодна ня толькі шэфстваваць за-

**ДЛЯ ЗАЎВАГ**

водам у цэлым, але і разгарнуць шэфства цэхаў над адпаведнымі цэхамі, майстэрнямі і аддзеламі падшэфных арцеляй. Трэба вылучыць рад **буксірных брыгад** для работы ў арцелях на пэўных вучастках. Брыгада ў складзе эканаміста-плянавіка, работніка па гасразьліку і лепшых ударнікаў павінна заняцца ўкараненьнем лепшых узораў барацьбы за тэхнічнае нарміраваньне, за наладжваньне брыгаднага гасразьліку ў брыгадах. Другая брыгада можа працаваць па рацыяналізацыі і тэхнічнай дапамозе. Трэцяя — па культмасавай рабоце і т. д. Членаў прамарцелі трэба шырока ахапіць культработай, прымацаваўшы іх да заводзкіх клюбаў. Трэба паставіць пытаньне аб умацаваньні кіруючых органаў прамарцелі вылучэнцамі, лепшымі ўдарнікамі заводу.

Завод, які ўзяў шэфства, павінен вылучыць спэцыяльную брыгаду для арганізацыі ў падшэфных арцелях бюро рацыяналізацыі і вынаходніцтва (БРИЗ).

Бязумоўна, мэтазгодна практы-

каваць **сумесныя вытворчыя нарады** рабочых і членаў арцеляй па пытаньні лепшага скарыстаньня ўтыльадходаў і палепшаньня якасьці вырабаў шырспажыву.

Карысна практыкаваць **вытворчае коопэраваньне** заводаў з падшэфнымі прамарцелямі для **сумеснай** выпрацоўкі тавараў і прадметаў шырокага спажываньня.

Усе гэтыя мерапрыемствы, якія неабходна прадугледзець **двухбаковым дагаворам па шэфству,** павінны мець адзіную мэту — агульнымі намаганьнямі прамысловасьці і прамкоопэрацыі забясьпечыць выкананьне плянаў па шырспажыву і там і тут. Завадзкая парторганізацыя павінна клапаціцца аб выкананьні пляну выпуску шырспажыву ня толькі ў сябе, але і ў падшэфнай арцелі.

6. Але зрабіць тавары — гэта яшчэ палавіна справы. Трэба ўмець хутка **прасунуць тавары** на рынак, давесьці іх да спажыўца. Парторганізацыя прадпрыемства, якое працуе на шырспажыву, можа і абавязана сачыць за прасоўвань-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

нем свайго тавару. Нажаль, да гэтага часу ў нас мала цікавяцца гэтым важнейшым пытаньнем. Не пасьпеўшы як належыць пачаць работу па шырспажыву, некаторыя прадпрыемствы пасьпелі ўжо затаварыцца. У Гомелі ўжо некальлі месяцаў ляжыць бяз руху вялікая колькасьць матык, грабель, 21 скрыня гваздоў, дзьве тоны дроту і іншыя неабходныя для праполкі і ўборачнай кампаніі прадметы.

Заводы імя Варашылава, «Ударнік» і «Комунар» на працягу мая і чэрвеня зрабілі вялікую колькасьць матык для поліва, падкоў, лапат, малаткоў, шын і іншых востра дэфіцытных скабяных тавараў, але ўсе гэтыя тавары спакойна праляжалі на складах да жніўня месяца. І гэта — ня больш, як рэзультат адсутнасьці масавасьці, колектыўнай зацікаўленасьці ў вырабе тавараў шырспажыву. Над прасоўваньнем тавараў да спажыўца павінен быць устаноўлен строгі **контроль з боку заводзкай грамадзкасьці.** Толькі тады мы здолеем

ДЛЯ ЗАЎВАГ

эжыць затаварваньне —гэты біч тавараабароту.



Бягучы трэці квартал зьяўляецца асабліва адказным у адносінах выпуску тавараў шырспажыву. Трэці квартал супадае з пэрыёдам падрыхтоўкі і пачатку збожжазагатовак. Для больш пасьпяховага ходу загатоўчай кампаніі неабходна кінуць у вёску магчыма большую колькасьць прамысловых тавараў. Вырабіць дадаткова гэтыя тавары з адкідаў сыравіны на мільёны рублёў і забясьпечыць сваячасовае накіраваньне іх у сяло насустрач патоку сельгаспрадуктаў — вось такі абавязак прадпрыемстваў Беларусі.

На вопыце дзесяткаў перадавых прадпрыемстваў ужо даказана, што дадатковы выраб тавараў для вёскі на ўсіх прадпрыемствах як лёгкай, так і цяжкой індустрыі — справа зусім магчымая. Выпуск тавараў шырспажыву расшырае таварныя фонды, садзейнічае соцыялістычнаму накапленьню, паскарае процэс расшыранага соцыя-

лістычнага ўзнаўленьня[1]) ва ўсёй народнай гаспадарцы. Даўно пара рашуча пакончыць з усімі, яшчэ маючымі месца недапушчальнымі гутаркамі, што **адказная** програма не дазваляе, моў, заняцца такімі «дробязямі», як выпуск тавараў для вёскі. Максымальна разьвіць справу па выпуску шырспажыву на кожнай фабрыцы, на кожным заводзе, у кожным цэху, мобілізаваць на гэта актыўных шырокіх мас — пачэсная задача для ўсіх партыйных організацый.

Больш ініцыятывы і самадзейнасьці ў шуканьні дадатковых крыніц вырабу тавараў для вёскі!

ДЛЯ ЗАЎВАГ

---

1) Воспроизводства.—*Рэд.*

